Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№11(623) 15 сакавіка 2012 года.

Кошт свабодны.

## Паведамляем:

з 24 сакавіка 2012 г ад-крываецца вясновы сезон палявання на птушыную дзічыну.

**Паляўнічыя дні:** субота, нядзеля, панядзелак, аўторак.

*Паляванне праводзіцца ў светлы час сутак, акрамя перыяду з 11⁰⁰ да 18⁰⁰.*

**Кошт пуцёўкі:**

- сезонная па гаспадарцы – 200 тыс. руб.;
- у адну паляўнічую дачу – 150 тыс. руб.;
- разавая – 40 тыс. руб.

Дзя грамадзянаў, якія не з'яўляюцца членамі БТПР, кошт пуцёўкі павялічваецца ў 2 разы.

Тэлефон для даведак: 2-86-96; 2-86-97.

*Установа Глыбоцкая РОС РТОО «БТПР».*

**«Мосар-2012»**

За секунду да старту.

Фота Ул. Скрабатуна



Працяг тэмы на стар. 4.

СКУТАРЫ
ГАРАНТЫЯ НА ЎСЮ ТЭХНІКУ
КРЭДЫТ
МАПЕДЫ. МОТАКОСЫ
БЕНЗАПІЛЫ
РУХАВІКІ ДА МОТАБЛОКАЎ
ГЕНЕРАТАРЫ ад 0,8 да 5,5 квт
ЛОДАЧНЫЯ МАТОРЫ
ЗАПЧАСТКІ да веласіпедаў
і шмат іншага
ПП «Хорс Мотарс», УНП 190849085; Ліц. 50000539993 да 12.03.2014 г. МГВК
тэл.: 8 (044) 534-58-74
на рынку «Верас»
АКУМУЛЯТАРЫ
Патэлефануй: 8(033) 320-82-02

АТЛАНТ-СЭРВІС
ХАЛАДЗІЛЬНІКІ,
МАРАЗІЛЬНІКІ,
ГАЗАВЫЯ ПЛІТЫ,
ПРАЛЬНЫЯ МАШЫНЫ
АТЛАНТ
Беспрацэнтны крэдыт ад 2 да 6 месяцаў
Першапачатковы ўнёсак ад 25%
Магчымы продаж у крэдыт ад 6 да 12 месяцаў
Пры 100% аплаце адразу дзейнічае гнуткая сістэма зніжак
ДАСТАЎКА
Гарантыя 3 гады
2-81-85
Магазін "Атлант-Сервіс", г.Глыбокае, вул. Чкалава 1а
Падсв.№ 598 ад 28.08.2007г. выдана Віц. АВК УНН 390467684

СТЕЦКЕВИЧ
СПЕЦОДЕЖДА
20 лет
ФИЛИАЛЫ ПО ВСЕЙ РЕСПУБЛИКЕ
(02156) 26 989
ул. Железнодорожная, 14
ГЛУБОКОЕ
www.uniform.by
СООО "СТЕЦКЕВИЧ-СПЕЦОДЕЖДА"
УНП 190716044

БУМАГА
XEROX
40 000 руб.
Торговый дом ВИТЯЗЬ
(02156) 4-25-62
(02156) 2-98-98
УНП 300922311

УНП 191431511
ОКНА
Низкие цены
Гарантия 10 лет
Удивительное спокойствие:
Шум остаётся за окнами.
Наши преимущества:
Немецкие профили KoNING, МОНБЛАН, ReHaU.
Аллюминиевые раздвижные рамы.
Обмер и доставка, москитные сетки в ПОДАРОК.
MTS:80295614343, 80298739463
Velcom: 80293042664

Рэклама ў газеце «ВГ»,
тэл.: 8(029) 813-99-99

Вокны, дзверы ПВХ
АЛЮМІНІЕВЫЯ РАМЫ, РАМОНТ ВОКНАЎ
Акцыі і падарункі
Гарантыя 10 гадоў
УНП 390091304
Тэл.: (029) 598-76-11 (мтс); (044) 598-76-11 (вэл)

Навінкі ад « Віцязя»

Торговый дом ВИТЯЗЬ
г. Глубокое, ул. Ленина, д1
тел.(02156) 2-35-17
РАССРОЧКИ
акциии, скидки
множество нового товара

"Товар недели"
Масляные радиаторы "SCARLETT"
9 секций +вентилятор 710 000 руб.
11 секций 649 000 руб.
7 секций +вентилятор 629 000 руб.



УНП 300922311

"Лови момент"

| Телевизор «Витязь» | Цена прейскурант | Цена акция |
|---|---|---|
| 26 LCD821-4DP | 3 900 000 | **3 250 000** |
| 32 LCD821-5DC | 4 380 000 | **3 650 000** |
| 32 LCD831-4DP | 4 800 000 | **4 000 000** |
| 37 LCD821-5DC | 7 020 000 | **5 850 000** |

## Мёрскі раён

# Гінуць людцы ў агні

■ Чэслаў Якубовіч

**З надыходам каляндарнай вясны і адступленнем моцных халадоў, здавалася б, будзе меней розных вогенных здарэнняў.**

Аднак, на жаль, у жыцці па-ранейшаму выходзяць людцы з жыцця пры трагічных абставінах. Вось і ў вёсцы Каменполле, што ў Мёрскім раёне, такая бяда здарылася нядзельным вечарам і на пажары загінулі маладая маці і яе гадавалы сын. Абое загінуўшых жылі ў доме сваёй бабулі ў яе службовай кватэры ў доме, які належыць мясцовай гаспадарцы. У той трагічны дзень яго гаспадыня вярталася дамоў з гасцей. На падыходзе да сваёй хаты жанчына ўбачыла з жахам, як з памяшкання выходзіць дым. Калі пажарныя прыехалі сюды, было ўжо позна дапамагчы пагарэльцам. Гарэлі канструкцыі памяшкання, і пачала часткова абвальвацца столь. Унутры хаты выратавальнікі знайшлі целы загінуўшай дачкі і ўнука бабулі. Праз некаторы час спецыялісты ўстановяць прычыну гэтай вогненнай трагедыі. А вось у той самы дзень у суседнім Браслаўскім раёне полымя вечарам забрала жыцці двух мужчын па самай распаўсюджанай прычыне. У вёсцы Эйвідавічы суседзі ўбачылі, як загарэўся дом 53-гадовага работніка мясцовага сельгаспрадпрыемства “Новая гвардыя”. У гасцях у нябожчыка ў тую нядзелю быў яго 44-гадовы знаёмы, таксама рабочы гэтай гаспадаркі. Па існуючай традыцыі яны добра выпілі і закурылі ў апошні раз. Акрамя цел загінуўшых вяскоўцаў пажарныя ўбачылі моцна закопчаныя сцены і падгарэўшыя пасцельныя прыналежнасці…

## Глыбоцкі раён

# Падвяла прага нажывы

■ Станіслаў Раманчук

**З даўніх часоў у свядомасці даволі многіх савецкіх людзей замацавалася думка палепшыць сваё матэрыяльнае становішча, паклаўшы вока на тое, што дрэнна захоўваецца.**

Гэтым правілам кіраваўся і адзін з жыхароў Глыбокага, які ўладкаваўся працаваць слесарам у мясцовым райаграсервісе. Яшчэ летась падчас пасяўной разам з некалькімі калегамі яму ўдалося ўкрасці адсюль шэраг запчастак для сельгастэхнікі на суму больш 25 млн. рублёў. Украдзеныя рэсоры збыў быццам удала індывідуальнаму прадпрымальніку. Аднак, як часта здараецца, такая афера вылезла для злодзея бокам. За крадзеж у асабліва буйным памеры суд прыгаварыў гараджаніна да 5 гадоў і яшчэ 6 месяцаў пазбаўлення волі. На такі адчувальны тэрмін пакарання паўплывала тое, што ў 2010 годзе гэты глыбачанін ужо прыцягваўся да крымінальнай адказнасці. Тады ён працаваў аграномам у адной з гаспадарак раёна. Дзялку з крымінальным адценнем нават не склала праблем скрасці са сваёй гаспадаркі цэлы сельскагаспадарчы агрэгат. На першы раз за падобны ўчынак мужчына атрымаў 5 гадоў калоніі з адтэрміноўкай выканання прыгавору на 24 месяцы. Быў у яго час адумацца, але незразумелым чынам зноў пацягнула на “подзвігі”. Вось толькі цяпер за кратамі ўжо асабліва не разгуляешся: там парадкі суровыя.

## Пастаўскі раён

# Дакрануцца да прыгажосці

■ Кастусь Александровіч

**Да нядаўняга часу ў Паставах розныя цікавыя выставы і імпрэзы ладзіліся ў асноўным у двух выставачных залах мясцовага краязнаўчага музея і Дома рамёстваў “Стары млын”.**

Да іх у пачатку сёлетняй вясны дабавілася і пастаянная фотагалерэя ў фае кінатэатра “Радзіма” на цэнтральнай плошчы горада. Тут да першай гадавіны дзейнасці фотаклуб “Святласіла” адкрыў першую вялікую выставу сваіх лепшых работ пад назвай “Час, падораны нам”. У экспазіцыю кіраўнік клуба Андрэй Мацур адабраў самыя ўдалыя творы з паўсотні жанравых здымкаў, выкананых шасцю членамі клуба ў розных кутках краю і Беларусі, дзе ім давялося пабываць у творчых вандроўках. На адкрыццё гэтай выставы спецыяльна прыехалі да пастаўчан іх калегі з, бадай, самага вядомага айчыннага фотаклуба “Мінск”. Падчас імпрэзы, якая сабрала шмат улюбёных у мастацтва гараджан, кіраўнік раёна Віктар Гутараў паведаміў сябрам фотаклуба радасную навіну аб тым, што ў райцэнтры для іх выдзелена спецыяльнае памяшканне. Дарэчы, па суседству ў Доме рамёстваў на трэцім паверсе ў галоўнай выставачнай зале з’явіўся пастаянны экспанат – вялізны габелен пра родны горад. Яго на працягу 8-мі месяцаў ткалі лепшыя творцы клуба “Майстры”. Гэта праца павінна зацікавіць удзельнікаў і гасцей міжнароднага фестывалю народнай музыкі, які сёлета пройдзе на Пастаўшчыне 8-10 червеня.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 15.03.12 | | | | Пятніца 16.03.12 | | | | Субота 17.03.12 | | | | Нядзеля 18.03.12 | | | | Пнд. 19.03.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -7 | -6 | 0 | -4 | -7 | -6 | +2 | -1 | -4 | -1 | +7 | +3 | -1 | 0 | +9 | +5 | +3 | +3 | +7 |
| Ціск | 749 | 749 | 752 | 751 | 752 | 750 | 751 | 748 | 748 | 745 | 746 | 745 | 747 | 746 | 747 | 744 | 744 | 743 | 745 |
| Вільготнасць | 83 | 79 | 52 | 74 | 94 | 91 | 77 | 90 | 98 | 100 | 84 | 86 | 98 | 100 | 74 | 90 | 99 | 100 | 59 |
| Вецер м/сек | 6 С-З | 6 С | 6 С | 2 С-З | 2 Ю-З | 3 Ю | 3 Ю-З | 5 Ю-З | 6 Ю-З | 5 Ю-З | 6 З | 6 З | 5 З | 3 Ю | 4 Ю-З | 5 Ю | 6 Ю-З | 4 З | 9 З |

# Лічба нумара

**133**

– столькі айчынных прадпрыемстваў, як заявілі ў Дзяржкаммаёмасці Беларусі, плануецца сёлета прыватызаваць да канца года. У гэтым спісе, узгодненым папярэдне з галіновымі міністэрствамі, аблвыканкамамі і сталічнымі ўладамі, на продаж выстаўлены дзяржпакеты 43 новых акцыянерных таварыстваў, якіх раней нават не ўключалі ў дзяржпраграмы прыватызацыі. Нагадаем, што перад урадам у 2012 стаіць задача атрымаць унушальную суму 2,5 млрд. долараў ад падобных аперацый.

Аднак, па ацэнках спецыялістаў, ёсць вялікія сумненні, што ўдасца з ёй справіцца. Справа ў тым, што галоўныя рашэнні ў нашай краіне прымае адзін чалавек. У Адміністрацыі прэзідэнта знаходзіцца на зацвярджэнні абноўлены на 2012-2015 гады план прыватызацыі дзяржпакетаў акцый, у якім з мінулага года нават 88 ААТ перанеслі ( па іх не праводзіліся летась намечаныя аўкцыённыя таргі). Да таго ж беларускі лідар на нарадзе па малочных холдынгах у сваёй манеры заявіў, што яму “плевать на приватизацию”.

Тым не менш прэзідэнту ўсё ж прыйдзецца зацвярджаць гэты дакумент, бо інакш не атрымаць чарговы крэдыт ад антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС. Без гэтага не пачнуцца і новыя перамовы з МВФ аб новай праграме крэдытавання Беларусі, а аглядавая місія гэтай уплывовай замежнай фінансавай арганізацыі на працягу двух тыдняў працавала ў беларускай сталіцы, вывучала эканамічную палітыку ўладаў РБ апошнім часам. Ды і дадатковыя сродкі ў цвёрдай валюце вельмі патрэбныя для папаўнення нашых золатавалютных рэзерваў і для развіцця беларускай эканомікі.

Як паказвае практыка, у нас прыватызацыя будзе ісці, як і раней, марудна, з частымі адступленнямі назад, бо вельмі не любяць прыватны капітал. У прыватнасці, згодна папярэдняга плана продажу дзяржпакетаў акцый на 2011-2013 гады, летась намячалася прадаць акцыі 180 айчынных ААТ. Аўкцыёны па іх пачаліся толькі ў другой палове мінулага года і закранулі адны невялікія прадпрыемствы з колькасцю працуючых меней, чым 500 чалавек. У выніку ўдалося прадаць дзяржпакеты толькі 38 дробных заводаў і фабрык за 180,3 млрд. рублёў ( з іх па 4 працэдуры зацягнуліся, а потым пакупнікі адмовіліся ад акцый).

Таксама некалькі разоў летась Дзяржкаммаёмасць РБ аб’яўляла аб зняцці з таргоў шэрагу лотаў з-за супраціўлення дырэктароў прадпрыемстваў, мясцовых уладаў і галіновых чыноўнікаў. Як падаецца, і надалей, працэс прыватызацыі ў калгаснадырэктыўнай краіне будзе тармазіцца. Мы замахнуліся атрымаць 2,5 млрд. долараў сёлета ад супрацоўніцтва з замежнымі інвестарамі і ўзялі адпаведныя абавязацельствы перад сваімі саюзнікамі – Расіяй і Казахстанам. На практыцы прадаём зусім ужо непрывабныя актывы, за невялікія прадпрыемствы летась выручылі ўсяго 16,9 млн. USD.

Таксама зацягнулася вырашэнне пытання з далейшым лёсам аднаго з флагманаў айчыннай індустрыі – сталічным МАЗам, а расійскія аўтамабільныя карпарацыі тым часам усё шчыльней працуюць з нямецкім Мерседэсам, іншымі сусветна вядомымі фірмамі. Як бы нам не апынуцца ў ролі старой бабулі з пушкінскай казкі пра рыбака і залатую рыбку. У нас шмат гавораць, абяцаюць, а потым даюць указанні ствараць у кожнай вобласці буйную дзяржаўную мясамалочную кампанію, калі зараз пенсіянеры з раніцы палююць у крамах за пакетам больш таннага малака альбо кефіру.

Нават расіяне пакрыўдзіліся, што мы іх завалілі дэмпінгавай малочнай прадукцыяй. А айчынны спажывец не можа купіць той жа тварог па значна павышаных цэнах. Ды і на мяса закупачныя цэны складаюць 11-15 тысяч/кг, а што вы можаце свабодна купіць сабе ў магазіне? Нам ужо давялося перажыць летась вострыя фінансава-эканамічны крызіс і абвал жыццёвага ўзроўню з-за вар’яцкага росту цэн і рэкорднага аслаблення рубля.

Зараз вось прынялі рашэнне аб рэзкім зніжэнні ставак рэфінансавання, што з’яўляецца адной з падстаў для раскручвання інфляцыйнай спіралі (рост цэн за 2 месяцы года амаль 3,5 %). У гэтым годзе замахнуліся падняць зарплату нават на 72 % і павялічыць ВУП краіны на 5-5,5 %. Што ў выніку атрымаецца сёлета, цяжка пакуль загадваць. Аднак відавочна, што ў 2011 годзе праваламзавяршыліся намечаныя планы прыватызацыі і папаўнення дзяржбюджэту ад выкарыстання і рэалізацыі дзяржмаёмасці. Усё ідзе да таго, што і сёлета беларускае кіраўніцтва ўпарта наступае на адны і тыя ж граблі з прыцягненнем інвестыцый і стабілізацыяй эканомікі па праграме яе прыватызацыі.

## Дзень за днём

**У пачатку вясны стаўка рэфінансавання ў Беларусі зноў знізілася на 5 пунктаў – да 38 % гадавых. Афіцыйны Мінск упершыню ў пытанні санкцый з боку ЗША і ЕС заручыўся падтрымкай Расіі на ўзроўні яе прэзідэнта. Міжнародныя тэлефонныя перамовы для беларусаў у РФ, шэраг іншых дзяржаў СНД падаражэлі на 20 %, а рост спажывецкіх цэн за няпоўных 2 месяцы года склаў 3,3 %. З пачатку года на адну тысячу шлюбаў сярод беларусаў прыходзілася 930 разводаў. Правілы прыёму ў айчынныя ВНУ і тэхнікумы сёлета не зменяцца.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** ЕС увёў новыя санкцыі супраць рэжыму Б. Асада, замарозіў банкаўскія рахункі яго прыбліжаных, увёў абмежаванні на авіярэйсы, на гандаль драгметаламі, нафтай.

**Сірыя.** У доме побач з гарбальніцай у Хомсе ў выніку артабстрэлу сірыйскай арміі днём загінулі сусветна вядомыя журналісты М. Койвік (ЗША), Р. Ахлік (Францыя) і 45 чалавек.

**ЗША.** Глава Дзяржддэпартамента Хілары Клінтан заявіла аб непазбежнасці маштабнай грамадзянскай вайны ў Сірыі, замежнае ўмяшанне ў канфлікт толькі паскорыць бойню.

**Францыя.** Нават пры магчымым прыходзе да ўлады сацыяліста Франсуа Аланда пазіцыя МЗС Францыі ў адносінах да Беларусі не зменіцца з-за сітуацыі там з правамі грамадзян.

**Украіна.** Украінскі прэм'ер М. Азараў заявіў, што краіна знойдзе выхад, нават калі Расія поўнасцю спыніць транзіт газу праз украінскую тэрыторыю, гэта каштуе РФ 20 млрд. еўра.

**Сербія.** Жыхароў краіны парадавала рашэнне ЕС прадаставіць сербам статус кандыдатаў на ўступленне ў Еўрасаюз пасля паляпшэння іх узаемаадносінаў з суверэнным краем Косава.

**Венесуэла.** Прэзідэнту Уга Чавесу ў адной з клінік Гаваны на Кубе зноў зрабілі аперацыю па выдаленню новай ракавай пухліны, ён правёў ужо 4 курсы хіміятэрапіі ад хваробы раку

**Літва.** Будаўніцтва новай Вісагінскай АЭС у суме 5 млрд. еўра (50-70 % яе кошту), як заявіў міністр энергетыкі Арвідас Сякмоніс, прафінансуюць 2 інвестары з Японіі.

**Афганістан.** Пасля чуткаў аб быццам спальванні на базе ВПС ЗША Карану па краіне прайшлі масавыя хваляванні, на вуліцах палілі і нішчылі найперш дамы з іншаземцамі.

**ЗША.** Калі ў РБ застануцца палітвязні, беларуская дыяспара пачне сусветную кампанію байкоту чэмпіянату свету-2014 па хакею ў Мінску, да гэтага заклікаў і Кангрэс ЗША.

**Італія.** Пасля пажару ў машынным аддзяленні яшчэ адзін круізны 8-палубны лайнер "Коста Алегра" з тысячай пасажыраў лёг на дрэйф у Індыйскім акіяне, ніхто не пацярпеў.

**Украіна.** Прэзідэнт В. Януковіч пацвердзіў, што крымінальная справа супраць экс-прэм'ера Ю. Цімашэнкі можа быць перагледжана пасля прыняцця адпаведных законаў.

**Англія.** Алігарх у выгнанні Барыс Беразоўскі праз Інтэрнет пакаяўся за тое, што прывёў да ўлады ў Расіі У. Пуціна і не ўбачыў у ім будучага душыцеля свабоды слова.

**Расія.** Услед за сваім мужам кінарэжысёрам Сяргеем Коласавым пайшла з жыцця праз 10 дзён пасля яго смерці народная артыстка СССР Людміла Касаткіна, ёй было 86 гадоў.

**ЗША.** Лепшым фільмам года стала нямая стужка "Артыст" на 84-й цырымоніі ўручэння "Оскараў" у Лос-Анджэлесе, якую трансліравалі ў Беларусі і яшчэ ў 224 краінах свету.

Камерун. Амаль 500 сланоў у нацыянальным парку Барбанужда забілі браканьеры з суседніх Судана і Чада меней чым за 2 месяцы з-за бяздзейнасці ўрада краіны.

# Дэкада «Дзяржтэхагляд» пройдзе ў Беларусі з 20 па 30 сакавіка



■ Аляксей Арэшка, БелаПАН

**Рэспубліканская дэкада «Дзяржтэхагляд» пройдзе ў Беларусі з 20 па 30 сакавіка. Як паведаміла прэс-сакратар Міністэрства транспарту і камунікацый Алена Саланенка, асноўная мэта акцыі — узмацненне кантролю над своечасовым праходжаннем дзяржтэхагляду транспартных сродкаў і пыцягненне ўвагі аўтаўладальнікаў да пытанняў падтрымання аўтамабіляў у тэхнічна спраўным стане.**

Паводле слоў прэс-сакратара, ужо складзены план сумесных рэйдаў, узгоднены маршруты патрулявання. Групы, у склад якіх увойдуць прадстаўнікі ДАІ, Транспартнай інспекцыі і УП «Белтэхагляд» у першую чаргу будуць звяртаць увагу на аўтамабілі, што эксплуатуюцца без дазвольнай наклейкі на ветравым шкле. Будуць таксама правярацца транспартныя сродкі, якія маюць яўныя неадпаведнасці па знешнім выглядзе. Асаблівая ўвага будзе надавацца аўтатранспарту, што належыць сельгаспрадпрыемствам.

Аўтаўладальнікі, якія эксплуатуюць транспартныя сродкі без своечасова пройдзенага дзяржтэхагляду, будуць пакараныя штрафам у памеры да дзвюх базавых велічыняў.

УП «Белтэхагляд» рэкамендуе аўтаўладальнікам не адкладваць візіт на дыягнастычную станцыю, а таксама не паддавацца на правакацыі «добразычліўцаў», якія могуць прапаноўваць паслугі па нелегальным праходжанні дзяржтэхагляду.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** З-за нізкіх зарплат толькі з апарату Саўміна Беларусі на працягу 9 месяцаў звольніўся 41 супрацоўнік (12 % штату), такой цякучкі кадраў тут яшчэ ніколі не было.

**Пінск.** На судзе аб выбуху на "Пінскдрэве" пракуратура прапанавала спагнаць з холдынга 4,5 мільярда рублёў на карысць пацярпелых, галоўны фігурант па справе Л. Арыніч уцёк.

**Жодзіна.** У рамках абавязацельстваў перад Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС БелАЗ сёлета будзе цалкам або часткова прыватызаваны, як і БМЗ, "Бархім" і "Лакафарба".

**Мазыр.** Першы віцэ-прэм'ер У. Сямашка прызнаўся, што дарагую нафту для НПЗ куплялі ў Венесуэле і Азербайджане найперш, каб напалохаць Расію і хутчэй дамовіцца з ёй.

**Брэст.** Старшыня аблвыканкама Канстанцін Сумар заявіў, што вобласць гатова да адкрыцця малога прыгранічнага руху з Польшчай, вырашэнне справы за Міністэрствам замежных спраў Беларусі.

**Астравец.** Для аховы дзяржаб'екта, будучай АЭС і яе спецыяльных грузаў вырашана стварыць паблізу райцэнтра 11-ы спецыяльны батальён унутраных войскаў МУС Беларусі.

**Смалявічы.** Кампанія Coca Cola на набытым у райцэнтры заводзе пачала выпуск расійскіх сокаў "Добрый" і "Rich", сваю долю на рынку сокаў і напіткаў у РБ яна давяла да 20 %.

**Жыровічы.** Беларускі Экзархат паведаміў, што духоўная праваслаўная акадэмія пераедзе сёлета адсюль у Мінск паблізу да будынка Свята-Духава кафедральнага сабора.

**Мінск.** Савет па справах рэлігій і нацыянальнасцей РБ не даў дазволу на працяг у Беларусі душпастырскай дзейнасці яшчэ 4 ксяндзам, запрошаным на такую працу з Польшчы.

**Гродна.** На пагранпераходзе "Брузгі" без тлумачэння прычын адмовілі ва ўездзе ў РБ адразу 6 польскім дэпутатам, членам камісіі Сейма па сувязям з суайчыннікамі за мяжой.

**Дзяржынск.** На сустрэчы ў райбібліятэцы міністр інфармацыі РБ А. Праляскоўскі паведаміў аб стварэнні выдавецкага дома "Звязда", СМІ ў рэгіёнах будуць узбуйняць.

**Бялынічы.** У сваім доме ў вёсцы Гнездзін 85-гадовая жонка, верагодна, з растройствамі псіхікі засекла мужа-аднагодка і нават расчляніла цела нябожчыка, яго знайшоў сусед.

**Мінск.** Пасля падтасовак вынікаў нацыянальнага адбору на "Еўрабачанне" ў калектыве Белтэлерадыёкампаніі па даручэнню А. Лукашэнкі пачалася маштабная праверка.

**Гродна.** Былы начальнік аблупраўлення "Ахова" МУС РБ Дзінас Лікус не пагадзіўся з прыгаворам – 4 гады турмы і не прызнаў сваёй віны ў збіцці п'янага падначаленага.

**Мінск.** Старшыня федэрацыі хакея РБ Яўген Варсін абвергнуў паведамленні шэрагу СМІ аб магчымым пераносе па палітычных прычынах хакейнага чэмпіянату свету-2014 з Мінска.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Гарадскія ўлады зацвердзілі дату правядзення чарговага Міжнароднага фестывалю "Славянскі базар-2012" з 12 па 18 ліпеня і план добраўпарадкавання горада.

**Гарадок.** Малады 23-гадовы слесар Яўген Сяменаў, рызыкуючы жыццём, выратаваў ад гібелі захварэўшага 4-гадовага хлопчыка і вынес яго з палаючай агнём вясковай хаты.

**Глыбокае.** На далейшае абуладкаванне набярэжнай возера Кагальнае, узвядзенне лодачнага пірса да Дня беларускага пісьменства выдзелена амаль 900 млн. рублёў.

**Наваполацк.** У парадку эксперыменту гаркамунгас правёў рэарганізацыю: самастойнасць атрымалі яго гасцініца, спецаўтабаза, вадаканал з лазнямі для больш эфектыўнай працы.

**Дуброўна.** Чарговая праверка Дзяржкантролю выявіла паўсюдна ў магазінах тавары з пратэрмінаваным тэрмінам годнасці нават 7,5 месяцаў, шэраг іншых грубых парушэнняў.

**Віцебск.** Суд прыгаварыў да 2 гадоў і 1 месяца калоніі агульнага рэжыму апазіцыянера С. Каваленку, яго "віна" была ў вывешванні бел-чырвона-белага сцяга на навагодняй ёлцы.

**Полацк.** У дзяржаўную інвестыцыйную праграму на 2012 год уключылі будаўніцтва пешаходнага маста праз Дзвіну і радзільнага, хірургічнага аддзяленняў гарбальніцы.

**Віцебск.** З кабінета адной з вясковых школ раёна днём з пакінутай без нагляду сумачкі настаўніцы ўкрала вялікую суму грошай – 3,7 млн. рублёў … вучаніца 9-га класа.

**Расоны.** У райбальніцы адкрылі пасля рэканструкцыі дзіцячае аддзяленне з сантэхнікай, душавымі кабінкамі ў палатах, асобным гульнявым пакоем з плазменным тэлевізарам.

**Мёры.** У вёсцы Новы Пагост вадзіцель малакавоза збіў насмерць вечарам 34-гадовую жанчыну з Шаркоўшчынскага раёна і знік з месца ДТЗ, яго потым затрымала міліцыя.

**Сянно.** Настаўнік СШ № 1 Анатоль Рыбчанка стаў пераможцам традыцыйнага конкурсу "Супермужчына-2012", білеты ў РДК на шоу-канцэрт раскупілі за тыдзень да яго пачатку.

**Глыбокае.** У вёсцы Лаўцы на пажары ад непатушанай цыгарэты ў сваім доме загінуў 54-гадовы мужчына, напярэдадні трагедыі ён добра "замачыў" продаж суседскага аўто.

**Браслаў.** Зонай свабоднай ад курэння ўлады вызначылі гарпарк, забаронена курыць і на тэрыторыі ля гарадскога стадыёна, на Замкавай гары, на аўтастанцыі і ў іншых месцах.

**Докшыцы.** У цэнтры горада ў былым прадмагу райпо адкрыла новую краму "Секонд хенд" , тавары прывозяць са сталіцы, яны разыходзяцца бойка, выручка да 2 млн. у дзень.

**Орша.** Міліцыя затрымала двух беспрацоўных, якія разабралі дах і з дачнага доміка ў садовым таварыстве "Здароўе" ўкралі ў пенсіянера 270 алюмініевых лістоў на 2,4 млн. руб

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# «Мосар-2012»





Андрэй Вацлававіч Якімовіч, вадзіцель «дальнабойшчык», арганізатар спаборніцтваў «Мосар-2012».



Валянцін Тадэвушавіч Мурзіч аддаў сваё бульбяное поле пад трасу для спаборніцтва картынгістаў «Мосар-2012».

**Працяг.**
*Пачатак на стар.1*

■ **Уладзімір Скрабатун**

Унікальны выпадак адбыўся ў гісторыі слыннага на Беларусі мястэчкаМосарГлыбоцкагараёна: адзін жыхар паселішча аддаў сваё бульбяное поле пад трасу для спаборніцтва картынгістаў, іншы жыхар – яго сусед – арганізаваў тыя спаборніцтвы і далёка не мясцовага ўзроўню. Гэта пры тым, што з райцэнтра ні на каліва не дапамаглі. Больш таго, у Глыбокім, дзе пад 150 вуліцаў і 3 плошчы, за апошнія два дзесяцігоддзі, так і не знайшлося месца для сталага спаборніцтва картынгістаў. А вось у Мосары знайшлося і дзякуючы мясцовым энтузіястам, якія зрабілі ўсё самі і без чыёйсьці дапамогі.

Да аўтара гэтых радкоў, які прысутнічаў на мерапрыемстве, падыходзілі людзі і прасілі выказаць “асаблівую падзяку нашым чыноўнікам” за дапамогу ў арганізацыі спаборніцтваў. Гэта было сказана так, што я адразу зразумеў, што словы “асаблівую падзяку”, трэба браць у двукоссе.

Вось, сапраўды, жыхары Глыбокага шмат выказваюць добрых слоў у адрас нашых уладаў за добраўпарадкаванне горада, стварэнне дзіцячых пляцовак, але чыноўнікі на працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў, чамусьці не заўважаюць картынгістаў. А яны ёсць! Просяць іх заўважыць і дапамагчы.

Шмат гадоў лямку па развіцці картынгу на Глыбоччыне цягнуў Анатоль Шпец (в. Тумашы). Ён прысутнічаў на спаборніцтвах “Мосар-2012”, сам браў удзел у заездзе бацькоў - удзельнікаў спаборніцтваў.

Падышоў да аўтара гэтых радкоў і кажа: “Усюды ёсць месца для картынгістаў! У Докшыцах, Лепелі, Полацку… А ў Глыбокім няма!

Дык жа ж гэта нашыя дзеці! Хутка ўсіх мужыкоў ператвораць у баб! Вось забаранілі хлопцам у школе на ўроках працы працаваць на станках, хутка, таго й глядзі, забароняць фізкультуру. А што: можна бегчы і заваліцца, разбіць нос. Небяспечна? Небяспечна! Вось і нагода.

– Што патрэбна для таго, каб картынг на Глыбоччыне развіваўся?– пытае спадар Шпец.

– Спонсар!– кажу.

– Вось, менавіта! Трэба знайсці грошы і заасфальтаваць участак 400м х 5м. І усё! Картынг на Глыбоччыне будзе развівацца.

Унікальнасць сітуацыі яшчэ і ў тым, што арганізатары спаборніцтваў дзякавалі за фундатарскую дапамогу не глыбоцкаму райвыканкаму, а докшыцкаму, які выдаткаваў пэўныя сродкі на ўзнагароды: дыпломы, кубкі, медалі… Гэты чыннік, са словаў суддзі спаборніцтваў Аляксандра Ганчарыка, дырэктара СДЮСТШ па аўтамотаспорту (Мінск), надаў мерапрыемству афіцыйны статус, рангу абласных. Падкрэсліваю, тое было сказана публічна, у прысутнасці ці не больш сотні чалавек. У адказ прысутныя падзякавалі апладысментамі докшыцкія ўлады, а нехта з натоўпу крыкнуў: “Дзякуй за свята на глыбоцкай зямлі!”

Першапачаткова мерапрыемства павінна было адбыцца 7 сакавіка, але з-за пагодных умоваў – слізгатня на трасе, адсутнасць снегу – прыйшлося перанесці на 9 сакавіка. Пры гэтым трасу спаборніцтваў прыйшлося доўга прасаваць трактарам, ссоўваць з палёў снег на тыя месцы трасы, дзе ён ужо стаяў. Вось гэтую работу як раз і зрабіў жыхар Мосара Андрэй Якімовіч на бульбяным полі Валянціна Мурзіча, які таксама прыняў чынны ўдзел ва ўпарадкаванні трасы.

Сама траса для спаборніцтва картынгістаў размяшчалася на схілах пагорка ля берага ракі Маргвы, а фонам быў прыгожы краявід на старадаўні парк графа Берастоўскага (гл. фота на стар.1)

На спаборніцтвы прыехалі юныя картынгісты з розных гарадоў Беларусі: Мінска, Полацка, Лепеля, Докшыцаў, Глыбокага, і, самае галоўнае, з самога Мосара. Дарэчы, Аляксей Якімовіч, КМС, сын арганізатара спаборніцтваў, стаў пераможцам у класе Н-270, а Аня Пачопка, таксама з Мосара, атрымала кубак “За волю да перамогі”.

Трэба адзначыць, што актыўную дапамогу ў правядзенні спаборніцтваў аказала мясцовая мосарская моладзь, у прыватнасці чатыры хлопцы выконвалі абавязкі маршалаў і адказвалі за бяспеку на трасе.

Мяркуецца, што сакавіцкія спаборніцтвы картынгістаў ў Мосары стануць традыцыйнымі і штогадовымі.



Аня Пачопка (11 год) з Мосара атрымала кубак «За волю да перамогі».



Пераможцы у класе Н-160. Злева направа: Яфіменка Сяргей (3-е месца, Полацк), Пашкевіч Аляксандр (1-е месца, Лепель), Ганчарык Данііл (2-е месца, Мінск), сын суддзі спаборніцтваў.



Пераможцы ў класе Н-270. Злева направа: Пашкевіч Аляксандр (3-е месца, Лепель), Якімовіч Аляксей (1-е месца, Мосар), Махоцін Вадзім (2-е месца, Лепель).

# Мястэчка Глыбокае



**«Вобраз базыліскаў мог казаць вернікам, якія праходзілі праз гэтыя дзьверы, што яны пакідаюць валадарства д'ябла дый уваходзяць у валадарства Бога на зямлі, у сьвятыню, куды д'ябал не мае доступу».**
*Фота Ул. Скрабатуна.*

**Паважаныя чытачы!**
**Яшчэ раз нагадваем, асабліва для тых, хто мо' й не чытаў матэрыял «Мястэчка Глыбокае» ад самага пачатку. У публікацыі нашага аўтара ідзе размова аб той частцы Глыбокага, якое на пач. XIX ст. належыла кляштару Кармелітаў, а менавіта той частцы, якая сёньня знаходзіцца ў раёне пл. 17 Верасьня і прылеглых вуліц: Савецкай, Горкага і Леніна – да маста. За мастом быў горад Глыбокае, які тут аніяк і не згадваецца.**
*Далей будзе яшчэ цікавей...*



■ **Аляксандр Івашчонак,**
*бакалаўр гісторыі.*

Працяг.
*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621), №10(622) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## Сымболіка глыбоцкіх базыліскаў

Адным з найстарэйшых твораў мастацтва Глыбоччыны зьяўляюцца дзьверы Глыбоцкага касьцёла Кармэлітаў босых (сёньня царква). Самі дзьверы зробленыя дзесьці ў XVII ст. Былі выкананыя з дрэва, гэтыя дзьверы адчыняюцца напалам унутар сьвятыні. Яны падзеленыя на 4 квадраты, кожны з якіх прадстаўляе пэўную расьлінна-жывёльную сцэну. У ніжняй частцы мы пабачым расьлінныя матывы ў кожных двух квадратах, якія так па праўдзе з'яўляюцца люстраным адбіцьцём адзін аднаго. Аднак у верхніх двух квадратах мы пабачым двух базыліскаў (васіліскаў).

Разважаючы пра сымболіку базыліскаў, я ня буду рабіць дасьледваньня ці існавалі гэтыя стварэньні ці не, бо для нас гэта не істотна. Выява гэтых стварэньняў знаходзіцца на дзьвярах колішняга касьцёла, таму для хрысьціянскай сымболікі гэтыя стварэньні існавалі. І для нас ужо дастаткова толькі гэтага, каб распавесьці пра іх сымболіку. (Варта дадаць, што пра базыліскаў пісала сьв. Гільдэгарда з Бінгэн, таксама на абразах сьв. Юрый быў прадстаўлены з базыліскам)

Як вядома ў сярэднявечнай хрысьціянскай сымболіцы, базыліск (па грэцку – малы кароль) быў сымбалем "малога караля" – д'ябла, які знаходзіўся ў апазіцыі да "Вялікага Караля" – Караля ўсіх каралёў Езуса Хрыста, як аб тым гаворыцца ў Бібліі. Такім чынам, мы маем ужо пэўную дынаміку спрадвечнай барацьбы: д'ябал – Бог, а выкарыстоўваючы сымбалі, базыліск – Езус. У гэтым выпадку паўстае пытаньне, чаму гэты базыліск, які зьяўляецца сымбалем д'ябла прадстаўлены на дзьвярах сьвятыні?

Каб адказаць на гэтае пытаньне варта зьвярнуцца не толькі да гісторыі мастацва, бо, як вядома, у сярэднявеччы існавала шмат прыкладаў, калі для аздабленьня храмаў былі браныя розныя міфічныя стварэньні тых народаў, нядаўна ахрышчаных, на тэрыторыі якіх будаваліся гэтыя сьвятыні. Аднак глыбоцкія дзьверы тут не вельмі падыходзяць, бо хрысьціянства ўжо існавала ад даўна, а акрамя таго трэба адразу зазначыць, што гэтыя дзьверы не былі зробленыя ў Глыбокім, хутчэй за ўсё ў Варшаве[1], адкуль менавіта і мог зьявіцца матыў базыліска – паводле тамтэйшага вядомага паданьня пра базыліска[2]. Аднак усё гэта – другапляновыя разважаньні.

Мне здаецца, што перадусім трэба зьвярнуцца да сымболікі дзьвярэй, месца, дзе знаходзяцца выявы базыліскаў. Дзьверы сьвятыні ў тых часах былі сымбалем вельмі патрэбным і канкрэтным, усталёўвалі выразную мяжу паміж сфэрамі прафанум і сакрум, якія былі фундамэнтам мэнтальнасьці сярэднявечнага чалавека. А ў дадатак, дзьверы былі мейсцам уваходу з адной сфэры ў другую. Варта прыгадаць старадаўні хрысьціянскі падзел на сфэры прафанум – мейсца панаваньня д'ябла і сакрум – мейсца прызначанага і прысьвечанага Богу. Такім чынам, да саркум належалі ўсе храмы, могілкі – тэрыторыя, якія мелі выразныя межы, але таксама і рэчы – усё гэта павінна было быць прысьвечанае Богу канкрэтным рытуалам, адпаведнымі малітвамі, сьвятой вадой, сьвятой сольлю, кадзідлам, сьв. алеям і г.д. Рэшта сьвету, усё непасьвечанае, "непахрышчанае" належала да "малога караля" – д'ябла (адсюль таксама і словы "нехрысьць", "нечысьць" – усё злое, падуладнае д'яблу). Вобраз базыліскаў на дзьвярах сьвятыні такім чынам мог казаць вернікам, якія праходзілі праз гэтыя дзьверы, што яны пакідаюць валадарства д'ябла дый уваходзяць ў валадарства Бога на зямлі, у сьвятыню, куды д'ябал не мае доступу.

Аднак вышэй сказанае можа падацца і недастатковым. Варта больш уважліва паглядзець на глыбоцкія базыліскі, якія не зусім былі падобныя да "сапраўдных" базыліскаў. У чым жа розьніца? Розьніца была ў тым, што базыліскі паводле ўсіх легендаў былі сьмерцяносныімі стварэньнямі, бо забівалі кожнага праз свой позірк, а таксама праз сваё дыханьне, якое было полымям. Гледзячы на глыбоцкіх базыліскаў, мы бачым, што яны не відушчыя, што яны сьляпыя, а зь іх вочаў растуць расьліны, тое самае адбываецца і зь іх языком, які ўжо не поўны полымя, а поўны расьлін. Напэўна гэта барочная стылізацыя базыліска. Аднак у такой стылізацыі ўжо сымбаль базыліска трохі іншы.

Вернік, уваходзячы праз гэтыя дзьверы, бачыў, што базыліск ужо ў гэтай сфэры сакрум не мае сваёй сьмерцяноснай сілы, а пераманяўся ў нешкадлівае стварэньне, што магло сьведчыць пра вялікую Божую моц, быць можа, робячы параўнаньне да Бібліі, да прароцтва Ісайі 65, 25, дзе гаворыцца пра тое, што воўк і баранак будуць пасьціцца разам, а леў будзе есьці салому як вол, а зьмяя будзе есьці прах зямлі і ня будуць рабіць нічога злога а ні на пагібель па ўсёй сьвятой гары Божай. Можа, менавіта гэта і хацеў перадаць майстар дзьвярэй, што на гэтай "сьвятой гары" (Божы храм) аніякія злыя духі (базыліскі) ня будуць рабіць нічога на пагібель чалавека, таму, уваходзячы ў гэтую сьвятыню, кожны вернік мог быць спакойны, што, будучы ў гэтым касьцёле, злыя духі ня маюць над ім аніякай улады.

Падсумоўваючы, здаецца, што менавіта такая сымболіка крыецца за нашымі нешкадлівымі глыбоцкімі базыліскамі.

***Працяг будзе.***



**Адзін з базыліскаў на дзьвярах глыбоцкага касьцёла Кармэлітаў (цяпер праваслаўнай царквы). Гл. фота ўверсе зьлева.**

**Заўвагі рэдакцыі:**

[1] У беларускай міфалогіі адсутнічае такі персанаж як базыліск (васіліск, Basilisk). Варта памятаць, што базыліск у Варшаву патрапіў ад немцаў, ад нямецкіх купцоў, што жылі ў Варшаве, бо базыліск увогуле гэта не славянская міфалогія, базыліск патрапіў з Усходу (Візантыя) у Сьвяшчэнную Рымскую Імпэрыю, у тым ліку і да нямецкага народу (І-шы рэйх), і ўжо з Германіі патрапіў у іншыя культуры.

[2] Рынкавы пляц зьяўляецца адным з самых маляўнічых месцаў Варшавы.

Дом №5 на паўднёвым баку ў сярэдзіне XVI ст. прыналежаў вядомаму каралеўскаму лекару Войцаху Очку, аўтару шматлікіх трактатаў пра лячэньне скураных хвароб. Сёньня тут месьціцца рэстаран «Пад Базыліскам». Яго назва нагадвае пра старое паданьне аб паўптушцы-паўзмяі Базыліску, які забіваў позіркам смельчакоў, якія шукаюць скарбы. Базыліск хаваўся ў бяздонных падземельлях аднаго з дамоў на вул. Крывое Кола, пакуль з ім не пакончыў сьціплы шавец, які спусьціўся туды з люстэркамі на грудзі й сьпіне. Сьмяротны позірк, адбіўшыся, забіў самога зьмея.

Варшавякі жартуюць, што прыкладна гэтак жа глядзяць сёньня госьці гэтага нятаннага рэстарана, атрымліваючы рахунак.



**Традыцыйная эўрапейская выява базыліска.**

## Віншаванкі

**Дарагую матулю і бабулю**

*Таццяну Міленцьеўну Крупскую*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть ангел-хранитель тебя укрывает
От всякой обиды земной,
Пусть доброе сердце твоё не узнает
Из тысячи бед ни одной.
Пусть будет всё: гроза, метели,
Пусть будет радость и покой,
А если будет очень трудно,
То знай, что мы всегда с тобой.



*Дачка Ірына і яе сям'я.*

*Вольгу і Мікалая Кукоўскіх*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть украсят поздравленья
Добрый праздник, День рожденья,
Все вниманьем согревают,
От души добра желают!
Пусть судьба подарит счастье,
Станет жизнь еще прекрасней,
Будет каждый день чудесным,
Светлым, ярким, интересным!

*Сям'я Скрабатуноў.*

*Таццяну Смоткіну*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть звезды светятся в глазах твоих,
Пусть счастье, как шампанское, искрится,
Пусть слезы никогда не блещут в них,
И в сердце пусть печаль не постучится.
Пусть этот день, как песня соловья,
Перечеркнет всех хмурых дней ненастье.
Пусть жизнь твоя, как майская заря,
Приносит каждый день в ладонях счастье!



*Калектыў "ВГ".*

# Увазе ўдзельнікаў дарожнага руху

**І.В. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

З прыходам вясны на дарогах раёна не становіцца спакайней. Павялічваецца колькасць аўтамашын, бо шматлікія грамадзяне ў зімовы перыяд транспарт не эксплуатавалі, адчулі прыход вясны і веласіпедысты, на што хацелася звярнуць асаблівую ўвагу.

Здаўна веласіпед з'яўляецца зручным сродкам перасоўвання. Менавіта таму ён атрымаў усеагульнае прызнанне і ўвайшоў у побыт кожнай сям'і. Айчынная прамысловасць выпускае шмат розных відаў веласіпедаў: дарослыя, дзіцячыя, дарожныя, падлеткавыя. З кожным годам выпуск іх у нашай Рэспубліцы павялічваецца. Наяўнасць вялікай колькасці веласіпедаў на дарогах ускладняе ўмовы руху, а невыкананне веласіпедыстамі правіл дарожнага руху прыводзіць да дарожна-транспартных здарэнняў з цяжкімі наступствамі.

Пры руху веласіпедысты часцей за ўсё дапушчаюць такія парушэнні правіл як:

- праезд скрыжаванняў на забараняльны сігнал святлафора;
- пры павароце не падаюць патрабаванага сігналу рукой;
- ажыццяўляюць рух у два шэрагі;
- рухаюцца далей 1 метра ад краю праезнай часткі;
- не заўсёды прапускаюць транспарт, які рухаецца па галоўнай дарозе;
- выязджаюць на паласу сустрэчнага руху;
- язда дзяцей, якія не дасягнулі 14-гадовага ўзросту па вуліцах горада і іншых населеных пунктаў;
- кіраванне веласіпедам у стане алкагольнага ап'янення;
- ранняй вясной на стан аварыйнасці ўплывае адсутнасць у веласіпедыстаў святлоадбівальных камізэлек, святлоадбівальных ліхтароў (спераду белага, а ззаду чырвонага колеру). Наяўнасць святлоадбівальнай камізэлькі абавязковае.

Звяртаем увагу веласіпедыстаў на тое, што за дадзены від парушэння будуць прымяняцца самыя строгія меры адміністрацыйнага ўздзеяння ў выглядзе штрафу ад 1 да 3-х базавых велічынь, а калі веласіпедыст знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення, то штраф складае 5 базавых велічынь. Раім абсталёўваць з мэтай бяспекі дарожнага руху свае веласіпеды ў адпаведнасці з Правіламі.

Адначасова хацелася б заклікаць да выканання правіл дарожнага руху і пешаходаў, якія груба іх парушаюць, пераходзячы праезную частку па-за пешаходнымі пераходамі. У сакавіку да дадзенай катэгорыі ўдзельнікаў дарожнага руху з боку Дзяржаўтаінспекцыі будзе звернута максімум увагі. За відавочнае ігнараванне патрабаванняў правіл дарожнага руху пешаходамі да іх будуць прымяняцца штрафныя санкцыі ў памеры 1 базавай велічыні.

Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху, клапаціцеся пра сваю бяспеку і бяспеку родных і блізкіх.

# «Не рубите, мужики, не рубите...»

**А.В. Протас ,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Захаванне нашай прыроды, яе багаццяў, флоры і фаўны, барацьба з браканьерствам і парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства, адно з асноўных накірункаў у працы Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Штотыдзень па ўсёй краіне супрацоўнікі інспекцыі затрымоўваюць дзясяткі браканьераў, канфіскоўваюць кіламетры браканьерскіх сетак, дзясяткі адзінак агнястрэльнай зброі, велізарную колькасць незаконна нарыхтаванай драўніны. Уся гэта праца сістэматычна асвятляецца ў сродках масавай інфармацыі, змяшчаецца на інтэрнэт-сайце Дзяржінспекцыі. Работнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі гэтак жа штотыдзень затрымоўваюць парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства.

За мінулы тыдзень інспектары затрымалі некалькі грамадзян, якія ажыццяўлялі незаконную парубку дрэў без дазваленчых дакументаў на іх высечку.

Так, 7 сакавіка 2012 года супрацоўнікі міжраінспекцыі паблізу в. Лучайка Шаркоўшчынскага раёна затрымалі мясцовага жыхара, грамадзяніна З., які праводзіў высечку дрэў асіны, дакументаў пры гэтым на іх высечку не было. Зараз парушальніку прыйдзецца заплаціць штраф за прычыненую прыродзе шкоду.

9 сакавіка 2012 года паблізу г. Глыбокае, жыхар раёна, грамадзянін Л. ажыццявіў высечку бярозы і алешыны, дакументаў, якія дазваляюць іх выдаленне, не было. Грамадзяніна Л. чакае штраф у памеры ад 5 да 50 базавых велічынь і пакрыццё шкоды каля 1 млн. рублёў за незаконна высечаныя дрэвы.

Толькі за адзін тыдзень сакавіка супрацоўнікі міжраінспекцыі канфіскавалі ў незаконных лесасекаў больш 10 м.куб. драўніны. Штрафы, накладзеныя на парушальнікаў, усё адно не пакрыюць урон, нанесены прыродзе, бо дрэва расце вельмі павольна, а ссекчы яго можна за лічаныя секунды.

**Хацелася б звярнуцца да арганізатараў спаборніцтваў па падлёднай рыбалцы. Паважаныя арганізатары спаборніцтваў, правядзенне любых спартыўных спаборніцтваў па рыбалцы неабходна ўзгадняць з раённым выканаўчым камітэтам і міжраённай інспекцыяй аховы жывёльнага і расліннага свету. У выпадку, калі арганізатары спаборніцтваў за 10 дзён да іх пачатку не інфармуюць міжрайінспекцыю, яны панясуць пакаранне ў выглядзе штрафу: грамадзянін да 20 базавых велічынь, а юрыдычная асоба да 500 базавых велічынь.**

На жаль, прыкладаў, калі арганізатары спаборніцтваў не інфармуюць міжрайінспекцыю, вельмі шмат.

Можа прыведзеныя прыклады і накладзеныя пакаранні камусьці здадуцца малаважнымі, але для большасці парушальнікаў гэта вельмі прыстойныя грашовыя сумы і добры ўрок на будучыню.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156 -28670. маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Крыжовы шлях на Мосарскай Кальварыі

**Кс. Аляксей Юркайць,**
*адміністратар парафіі Мосар.*

У Мосары на могілках узведзена 14 капліцаў, сведчанняў мукаў Хрыста, - Мосарская Кальварыя, на якіх пахавана і графіня Бжастоўская (1791-1831 гг.), адна з апошніх прадстаўніц роду фундатараў касцёла. Мосарская Кальварыя (Галгофа; імітацыя Крыжовага Шляху Езуса Хрыста) — гістарычнае месца паклanення вернікаў-католікоў.

**У пятніцу, 16 сакавіка, у 10 гадзін** мы пройдзем крыжовы шлях і завершым яго на Гары Крыжоў, на якой намаганнямі памерлага кс. Юозаса Булькі 10 кастрычніка 2004 года на гары быў усталяваны велізарны крыж, якраз у дзень 490-годдзя летапіснага ўспаміну Мосара. Дарэчы, у 2014 годзе будзе адзначацца юбілей Мосара – 500-годдзе. Запрашаем прыняць удзел у адмысловых набажэнствах.

Увечары, пасля крыжовага шляху, распачнуцца святыя рэкалекцыі ў 17 гадзін, а таксама і ў суботу ў 13 гадзін, у часе якіх афіцыял касцёльнага суда Віцебскай дыяцэзіі і душпастыр Дзеркаўшчынскай парафіі кс. Віталь Галец дапаможа нам перажыць навяртанне да Бога, знайсці шлях да святасці.

У Вялікім посце, перажываючы крыжовы шлях і духоўныя рэкалекцыі, праз пакаянне будзем аднаўляць нашую сувязь з Богам - веру, зноў прыглядзімся да яе, як да каштоўнага скарбу.





